№ 19 (180)
Май 2007 года



# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:





# 18 мая – Міжнародны дзень музеяў

Літаратурны музей Янкі Купалы

Літаратурны музей Якуба Коласа

## На тым тыдні...

● У Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь 10 мая прайшло мерапрыемства, прысвечанае 80-годдзю з дня нараджэння народнага артыста Рэспублікі Беларусь Юрыя Сідарава.

● У Польскім горадзе Венграў з 28 красавіка (на працягу чатырох тыдняў) працуе выстава па выніках пленэра, які прайшоў з 20 па 27 красавіка з удзелам беларускіх мастакоў і скульптараў. У творчай акцыі, па словах вядомага мастака Аляксея Марачкіна, прымалі ўдзел мастакі і скульптары з Мінска і Брэста. Сярод іх Аксана Гайдуковіч, Алесь Пушкін, Зміцер Копач, Ігар Марачкін, Аляксей Паўлючык, а таксама прадстаўнікі Украіны, Літвы і Польшчы.

Наведвальнікі змогуць азнаёміцца больш чым з 70 вывамі мясцовых краявідаў, помнікаў гісторыка-культурнай спадчыны, а таксама партрэтамі. Алесь Пушкін паведаміў, што ў канцы мая выстава пераедзе ў замак мястэчка Ліў, а з канца наступнага месяца яна будзе працаваць у адным з самых прыгожых месцаў Варшавы – парку Каралеўскія Лазенкі.

● Нядаўна ў Гомелі адкрыўся музей абласнога тэлебачання і радыё. У ім плануецца сабраць матэрыялы аб працы кампаніі ў розныя часы. Першая экспазіцыя прысвечана пачатку станаўлення. На стэндах – узнагароды, фотаматэрыялы, ксеракопіі дакументаў. Да 1 студзеня наступнага года тут плануецца прадставіць рарытэты абсталявання, якім карысталіся першыя гомельскія рэпарцёры.

Гэты праект звязаны 50-гадовым юбілеем, які 1 студзеня 2008 года адзначыць абласное тэлебачанне і радыё.

● У Полацкай мастацкай галерэі адкрылася выстава шведскай графікі. Многія з прац, што адлюстроўваюць асноўныя тэндэнцыі развіцця сучаснага шведскага мастацтва, належаць Каралеўскай калекцыі графікі, збіраць якую пачаў яшчэ кароль Густаў IV Адольф (1882–1973). Гэта не першы праект, што рэалізуецца ў горадзе над Дзвіной пры дапамозе мясцовых уладаў. Варта адзначыць, што ў Полацкім дзяржаўным універсітэце працуе Цэнтр развіцця шведскай культуры, дзе студэнты маюць магчымасць вывучаць шведскую мову.

## Варта наведаць

✓ Святочнае мерапрыемства, прысвечанае 30-годдзю Маскоўскага раёна г. Мінска, **«Край беларускі, край самабытны»** у Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту.

Пачатак свята 26.05.2007 г. а 12 гадзіне.

Вы маеце магчымасць пазнаёміцца з унікальнымі экспанатамі музея, прыняць актыўны ўдзел у гульнях і народных забавах, атрымаць асалоду ад беларускіх спеваў і танцаў. На працягу ўсяго свята працуюць гандлёвыя пляцоўкі, праводзяцца экскурсіі па музеі, прапануюцца конныя прагулкі.

Праезд прыгараднымі аўтобусамі ад аўтастанцыі «Паўднёва-Заходняя» ў напрамках Музей, Азярцо, Гарадзішча, Дубянцы, заходнія могілкі (да прыпынку «Музей»).

Тэлефон для даведак:
209-41-63; 506-53-81.

**Кастусь Антановіч**

✓ У рамках міжнароднай акцыі «Ноч музеяў» Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі 19 мая прапанаваў сваім наведвальнікам праграму **«Заняткі і адпачынак беларусаў у розныя часы»**. А менавіта: «Гульня ў свеце і сусвет у гульні», «Старалітоўскі стол XVIII–XIX стст.», «Пісьмовае слова – "быліцы мінуўшчыны"», «Мастацтва і асяроддзе», выставу «Глейна», «Аўдыё квінтэсэнцыя», выставу твораў Напалеона Орды, «Талент, аддадзены Радзіме...», выставу «Зброя, вайсковая амуніцыя і час», спектакль тэатра ценяў «Легенды пра Крэва», прадстаўленне батлейкі, выставу «Мастацтва ў гарадской культуры XIX – пачатку XX стст.», «Я Вам пішу...».

Напрыклад, у акцыі «Гульня ў свеце і сусвет у гульні» ўдзельнікам было прапанавана згуляць шахматнымі фігурамі, выраблёнымі па старажытных узорах. А на «Старалітоўскім стале» можна было пакаштаваць стравы беларускіх шляхціцаў. На выставе «Зброя, вайсковая амуніцыя і час» можна было даведацца пра гісторыю ахоўнага ўзбраення і нават прымерыць некаторыя яго элементы і дэталі.




# «Наша газета»

*17 красавіка 2007 года адна са старэйшых газет Беларусі адзначыла сваё 90-годдзе. Шлях, напоўнены радасцю і болем, уздымам і недахопамі, быў складаны, але галоўнае, што і па сённяшні дзень аб'ядналая газета Полачцыны мае сваіх пастаянных чытачоў, ідзе ў нogу з часам і працягвае сваё развіццё. Пачалося ўсё ў далёкім 1917 годзе. Прыход да ўлады бальшавікоў, змены ў палітычным жыцці краіны спрыялі выхаду перыядычнага выдання новага часу. Першая назва полацкай газеты была гучнай, яскравай. «Рэвалюцыйны голас» прадавалі, расклейвалі і раздавалі па горадзе. На старонках газеты пісалі пра новыя парадкі, там друкаваліся загады і пастановы, змяшчалі вялікую колькасць аб'яў.*

Пад новай назвай «Известия» газета пачала выходзіць у лістападзе 1917 года. Яна стала друкаваным органам армейскага савета 3-й арміі і Полацкага савета рабочых і сялянскіх дэпутатаў. У жорсткіх умовах вайны, пад час нямецкай, а потым польскай акупацый, газета працягвала сваё існаванне, даносіла людзям праўдзівыя словы, дапамагала захоўваць надзею ў хуткую перамогу. За гэты час газета некалькі разоў мяняла сваю назву – «Красная газета», «Красное знамя», «Октябрьское эхо».

*(Заканчэнне на стар. 2)*

# «Наша газета»

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Пасля вызвалення горада ў маі 1920 года з новай сілай і напорам загучаў голас полацкай перадавіцы. У горадзе панавалі голад і разруха, цяжка прыходзілася і жыхарам вёсак Полаччыны, але са старонак газеты, якая выходзіла 2 разы на тыдзень, чуліся заклікі да актыўнай адбудовы сваёй зямлі, артыкулы распавядалі пра новыя школы, бальніцы, хаты-чытальні. Не было добрага памяшкання, адсутнічала папера і фарбы, але невялікі штат супрацоўнікаў «Полоцкого пахаря» (пад такой назвай газета выходзіла ў 1924–1925 гг.) у складзе 3–4 чалавек імкнуўся данесці да сваіх чытачоў як мага болей цікавай і патрэбнай інфармацыі. Газета знаёміла не толькі з палітычнымі, эканамічнымі і сацыяльнамі навінамі, сярод матэрыялаў сустракаліся і мастацкія творы. У 1920–1930-я гг. у складзе рэдакцыі полацкай акружной газеты «Чырвоная Полаччына» працавала шмат таленавітай моладзі. Менавіта яна і стала ініцыятарам пастаяннай «Літаратурнай старонкі». Амаль усе супрацоўнікі рэдакцыі сталі членамі полацкай філіі «Маладняка». Гэта Алесь Дудар, Андрэй Александровіч, Алесь Звонак, Сымон Хурсік, Тарас Хадкевіч. Для многіх полацкая школа журналістыкі стала першай прыступкай будучай літаратурнай дзейнасці. Свой шлях у полацкай газеце пачыналі Пятрусь Броўка, Эдуард Самуйлёнак, Анатоль Астрэйка, Ян Скрыган і многія іншыя. Моладзь праводзіла літаратурныя вечары, сустрэчы, вучобы па раёне, выдавала свае альманахі. На адной з полацкіх сустрэч вядомы ў той час беларускі пісьменнік Міхась Чарот заўважыў, што «ў Полацку пісьменнікаў больш, чым насельніцтва». Сваё жыццё мела газета і ў часы Вялікай Айчыннай вайны. Яшчэ ў пачатку ліпеня 1941 года была разбурана полацкая друкарня, і выдаваць газету стала немагчыма. Праз 2 гады ў партызанскім атрадзе на Полаччыне газета аднавіла сваё выданне. Шмат намаганняў прыклалі фашысты, каб адшукаць падпольную друкарню, але ўсё было беспаспяхова. Газета жыла, змагалася з ворагам, выкрывала фашысцкую хлусню, расказвала пра гераічныя подзвігі партызан, уздымала настрой і веру ў перамогу.

У пасляваенныя гады газета працягвае свае літаратурныя традыцыі. Сябрамі, а потым і кіраўнікамі, літаратурнага аб'яднання «Надздвінне» былі Алесь Савіцкі, Валянцін Лукша, Навум Гальпяровіч, Іван Стадольнік, Герман Кірылаў, Валянціна Аколава і многія іншыя. Яны не забывалі сваёй газеты: «любая наша, родная» – толькі так звярталіся да яе ў віншаваннях да юбілейных дат, ва ўспамінах. Праходзіў час, з'яўляліся новыя формы работы, павялічвалася колькасць селькораў і рабкораў, уводзіліся новыя рубрыкі – жыццё ў газеце не стаяла на месцы. У 1930–1940-я гг. полацкая перадавіца была таксама ў гушчы падзей, пісала і пра новыя прадпрыемствы, друкавала фотаздымкі новых пабудоў горада, паведамляла і аб падзеях як па краіне, так і па ўсім свеце.

На старонках газеты друкаваліся матэрыялы пра новыя калгасы і прадпрыемствы, аднаўленне школы і палацы, фотаздымкі перадавікоў, навіны па краіне, лісты чытачоў. Газету чакалі ў кожнай кватэры, у кожнай хаце. «Сцяг камунізму» – так называлася газета амаль 40 гадоў (1952–1990), была папулярная і любімая. Апошняя назва полацкай газеты – «Полацкі веснік». Упершыню за ўсю гісторыю існавання ёй кіруе жанчына – Вольга Анатольеўна Часнавіцкая. Чалавек, які жыве сваёй справай, клапоціцца і пра чытачоў, і пра падначаленых. Пажадаем жа і рэдакцыі, і полацкаму выданню новага плёну, слаўных набыткаў, надзей толькі на самае добрае і светлае.

**Ірына ВОДНЕВА,**
*загадчыца Полацкага краязнаўчага музея*



*Любяць Нясвіж і турысты, і сучасныя рыцары*

Нам пішуць

## І на задавальненне, і на карысць

*У нашым пасёлку Габрыелеўка Шацкага сельсавета больш за тысячу жыхароў. Ёсць жылыя дамы двух-, трох-, чатырох- і нават пяціпавярховыя. Нядаўна адзначыў 30-годдзе Шацкі механічны завод. Але асобна хочацца расказаць пра азеляненне нашага пасёлка. Усё гэта – дзякуючы Міхаілу Міхайлавічу Пракопчыку, які шмат гадоў быў дырэктарам завода. Аднойчы ён прывёз незлічоную колькасць саджанцаў – каштаны, туі, ліпы, рабіны, глог ды іншыя. Ён разбіў у пасёлку скверы і алеі, а таксама арганізаваў пасадку двух садоў (у асноўным – з яблынямі розных гатункаў). А многія жыхары скарыстоўваюць вечназялёную тую, якая расце ў іх двары, як навагоднюю, ладзяць на вуліцы святкаванні.*

*Прайшлі гады, мы прывыклі да гэтай прыгажосці, што прыносіць нам задавальненне. Госці любуюцца на гэты цуд прыгажосці; а мы не ведаем, як аддзячыць Міхаілу Міхайлавічу. Калі ён ідзе вуліцай, здаецца, кожнае дрэва кланяецца яму. Толькі добрыя словы яму і ягонай сям'і адрасуюць мае землякі. Ягоная жонка Таццяна Уладзіміраўна кіруе камерцыйнай крамай, дзе працуюць ветлівыя прадаўцы, дзе можна набыць патрэбны тавар.*

*Шмат добрых словаў можна прысвяціць гэтым маім аднасяльчанам, але ж на тое сыдзе шмат газетнай плошчы. Лепш, сябры, прыязджайце да нас і самі паглядзіце на цудоўны край!*

**Яніна ШЭЛЕГ,**
*ветэран педагагічнай працы, пас. Габрыелеўка Пухавіцкага раёна*

## Выніковы дакумент

### першага пасяджэння Міжнароднага савета па праекце віртуальнай рэканструкцыі дакументальнай спадчыны і бібліятэкі Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў

27 красавіка 2007 года
Мінск

**Удзельнікі пасяджэння,** якія прадстаўляюць архіўныя і бібліятэчныя ўстановы Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны,

**беручы пад увагу** меркаванне ўдзельнікаў Міжнароднай канферэнцыі «Праграма ЮНЕСКО "Памяць міра": дзейнасць бібліятэк, архіваў, музеяў па захаванні дакументальнай спадчыны» (Мінск, 30 лістапада – 1 снежня 2006 г.) аб мэтазгоднасці ажыццяўлення праекта па рэканструкцыі збораў Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў у якасці пілотнага праекта ўзаемадзеяння па выяўленні, захаванні і сумесным выкарыстанні дакументальнай спадчыны;

**беручы таксама пад увагу** ўключэнне Архітэктурна-культурнага комплекса рэзідэнцыі рода Радзівілаў у Нясвіжы ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКО ў 2005 г. і значны прагрэс, дасягнуты ў яго рэстаўрацыі;

**зыходзячы** з вопыту двухбаковага і шматбаковага супрацоўніцтва ў справе захавання дакументальнай спадчыны Радзівілаў;

**улічваючы** вынікі дзейнасці па стварэнні мультымедыйнага дыска «Нясвіж – аб'ект сусветнай спадчыны і нацыянальны помнік»;

**абмеркаваўшы** пытанні, датычныя віртуальнай рэканструкцыі дакументальнай спадчыны і бібліятэкі архіва рода князёў Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў,

**пацвярджаюць** думку аб тым, што архіў рода князей Радзівілаў уяўляе сабою адзін з буйнейшых збораў дакументаў па гісторыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы з прычыны таго, што на працягу многіх стагоддзяў магнацкі род Радзівілаў адыграваў адметную ролю ў палітычным, сацыяльна-эканамічным і культурным жыцці Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі і іншых краін Еўропы, знаходзячыся ў родналасных адносінах з многімі арыстакратычнымі фаміліямі шэрагу еўрапейскіх краін;

**лічаць,** што мэтаю дадзенага праекта з'яўляецца стварэнне адзінага інфармацыйнага рэсурсу, які б адлюстроўваў склад усіх частак архіва, бібліятэкі, музейных калекцый Радзівілаў, якія захаваліся, і забеспячэнне доступу да іх міжнароднай навуковай супольнасці і шырокай грамадскасці;

**прытрымліваюцца** думкі аб мэтазгоднасці прыняцця мер па ўключэнні дакументальнай спадчыны і бібліятэкі Радзівілаў у Міжнародны рэестр Праграмы «Памяць міра» і звароту да Сакратарыята ЮНЕСКО з просьбай аказаць садзеянне ў падрыхтоўцы намінацыйнага дасье;

**прапаноўваюць** аб'ядна ць намаганні для ажыццяўлення наступных накірункаў дзейнасці:

стварэнне інфармацыйна-даведачнай сістэмы па архіву рода князей Радзівілаў Нясвіжскай ардынацыі, распрацаванай з улікам міжнароднага стандарта апісання архіўных дакументаў ISAD (G);

стварэнне зводнага каталога збораў бібліятэкі Нясвіжскай ардынацыі на аснове MARC-сумесных фарматаў;

стварэнне віртуальнага музейнага рэестра замка Радзівілаў у Нясвіжы;

стварэнне калекцыі дакументальнай спадчыны ў электронным фармаце і забеспячэнне доступа да яе;

падрыхтоўка прэзентацыйных матэрыялаў з мэтаю іх папулярызацыі сярод шырокіх колаў грамадскасці;

**падкрэсліваюць,** што створаны Міжнародны савет па праекце з прадстаўнікоў Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны, Расіі і ЮНЕСКО адкрыты для ўдзельнікаў з іншых краін і міжнародных арганізацый;

**прапаноўваюць** праводзенне пасяджэнняў Міжнароднага савета на рэгулярнай аснове;

**прымаюць** рашэнне аб тым, што кожная краіна будзе ажыццяўляць увесь комплекс работ у рамках праекта па архіўных, бібліятэчных і музейных зборах, якія мае;

**звяртаюцца** з просьбай да Бюро ЮНЕСКО ў Маскве, улічваючы маштабнасць і комплекснасць даследаванняў, а таксама вялікі аб'ём матэрыялу і звязаныя з яго апрацоўкай значныя выдаткі на дадатковы персанал і абсталяванне, узяць на сябе функцыю куратара праекта;

**звяртаюцца** з просьбай да ўрадаў краін-удзельніц, а таксама ЮНЕСКО, Савета Еўропы, Еўрапейскага Саюза, іншых міжнародных структур аказваць садзеянне ў ажыццяўленні праекта, які з'яўляецца прыкладам сумеснага выкарыстання культурнай спадчыны.

Удзельнікі першага пасяджэння Міжнароднага савета выказваюць удзячнасць Бюро ЮНЕСКО ў Маскве, Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКО Рэспублікі Беларусь, Дэпартаменту па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

*Кароткі слоўнік*
## краязнаўча-прававой тэрміналогіі
*беларускай старажытнасці*



**(Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

**«ЧУЖАЛОЖСТВА»** – такім тэрмінам Статут ВКЛ 1588 г. удакладняў паняцце сямейнай здрады і распусты. Яны лічыліся абразай хрысціянскай маралі і разглядваліся як цяжкае злачынства. Напрыклад, калі муж на свае вочы мог убачыць, што яго ная жонка знаходзіцца ў пасцелі з іншым мужчынам («чужаложнікам»), ён меў законнае права затрымаць іх, паведаміць (засведчыць) суседзям пра факт жончынай здрады і адвесці затрыманых у замкавы суд. У пэўных выпадках чужаложнікі маглі быць пакараныя нават смерцю (напрыклад, калі пры затрыманні чужаложніка быў забіты гаспадар і інш.)

**ЧЫНШ** (ад лац. perapis) – грашовыя ці натуральныя плацяжы феадальна-залежных сялян землеўласніку за карыстанне зямлёй. У ВКЛ у XVI–XVIII стст. чынш быў асноўнай павіннасцю чыншавых сялян. Як дадатковую павіннасць чынш плацілі і іншыя сяляне.

**ЧЫНШАВАЕ ПРАВА** – сістэма прававых норм, што рэгулявалі часовае ці бестэрміновае спадчыннае землекарыстанне сялян і мяшчан (чыншавікоў) у феадальным грамадстве. Узнікла ў Заходняй Еўропе ў XIII ст. У ВКЛ пачала пашырацца з XIV ст. Паводле яго землеўласнікі перадавалі сваю зямлю ў спадчыннае карыстанне чыншавікам за вызначаную плату. Землеўласнік не меў права пазбавіць чыншавіка карыстання зямлёй, калі апошні несвоечасова плаціў чынш, аднак мог спагнаць яго праз суд. Феадалы часта павялічвалі чынш, самаўладна ўводзілі дадатковыя паборы і павіннасці (за карыстанне млынамі, мастамі і інш.).

**ЧЫНШАВЫЯ СЯЛЯНЕ** – катэгорыя феадальна-залежных сялян у ВКЛ у XVI–XVIII стст., якія плацілі землеўласнікам грашовы ці грашова-натуральны падатак за карыстанне зямлёй, што замацоўвалася за імі і перадавалася ў спадчыну. З развіццём фальваркаў і павелічэннем платы чыншавыя сяляне ператварыліся ў прыгонных.

**ЧЭЛЯДЗЬ** – у ВКЛ катэгорыя залежнага ад феадалаў люду, які звычайна не меў зямельнага надзелу і жыў пры феадалах. Найбольш бяспраўная частка насельнікаў сваім становішчам блізкая да халопаў. Знаходзілася ў поўнай залежнасці ад буйных землеўласнікаў і магла прадавацца-купляцца. Да сярэдзіны XVI ст. асноўная доля чэлядзі – нявольнікі, парабкі. Асноўнымі прычынамі няволі былі нараджэнне ад нявольнікаў, палон, розныя цяжкія злачынствы, шлюбы вольных з нявольнымі, самапродаж. У XVI ст., асабліва ў час правядзення валочнай памеры, частцы чэлядзі выдзелілі невялікія зямельныя надзелы, і яна паволі ператварылася ў прыгонных сялян-агароднікаў.

# Біяграфія пухавіцкіх рэк

Вопыт бібліятэкараў Пухавіцкага раёна па стварэнні краязнаўчых бібліяграфічных паказальнікаў добра вядомы ў Мінскай вобласці. Апошнім часам асаблівая ўвага надаецца праблематыцы, звязанай з экалагічным краязнаўствам. Зусім нядаўна аддзел абслугоўвання і інфармацыі Пухавіцкай цэнтральнай бібліятэкі падрыхтаваў і выдаў паказальнік «Блакітная кніга Пухавіччыны». Хутчэй нават – дапаможнік, бо непасрэдна бібліяграфіі папярэднічае грунтоўная інфармацыя пра водныя артэрыі краю.

«Калі паглядзець на карту Пухавіцкага раёна, то можна пабачыць сетку блакітных жыл і ліній, якія прарэзалі ўвесь узгоркавы і лясны край з захаду на ўсход, з поўдня на поўнач. Гэта рэкі і азёры нашага краю.., – чытаем на самым пачатку даследавання. – Водная сетка нашага раёна не вялікая, уключае ў сябе рэкі, азёры, балоты. На тэрыторыі Пухавіцкага раёна працякаюць рэкі: Свіслач (з прытокамі Волма, Цітаўка, Талька), Пціч (з прытокам Шаць); размешчаны азёры: Сяргеевіцкае, Мацярынскае, вадасховішча Міхайлаўскае і іншыя...»

Аўтар паказальніка (бібліёграф Алена Пуціцкая) працу сваю выбудавала наступным чынам. Асобным раздзелам вылучана інфармацыя па рэках. Асінаўка (правы прыток Пцічы), Балачанка (левы прыток Свіслачы), Кавалёўка (левы прыток Шаці), Пціч, Свіслач, Суцінка (правы прыток Талькі), Талька (правы прыток Свіслачы), Цітаўка, Шаць (правы прыток Пцічы). Пасля ідуць звесткі пра азёры. Затым – раздзел «Балоты». У канцы «Блакітнай кнігі Пухавіччыны» – паказальнік літаратуры з 31-й назвы. Несумненна, краязнаўча-бібліяграфічнае даследаванне выканана на добрым прафесійным узроўні. Бібліёграф здолела спалучыць у невялікіх і сціслых «партрэтах» рэк, азёр, балот самыя разнастайныя звесткі.

Інфармацыю гідраграфічнага характару дапаўняюць звесткі пра экалогію вадаёмаў. У прыватнасці, Алена Пуціцкая піша: «...нашай Цітаўцы пагражае небяспека. З кожным годам рака мялее. Звязана гэта ў першую чаргу з дзейнасцю чалавека. І можа здарыцца так, што знікне наша рэчка з твару зямлі. Дапусціць гэта нельга. Трэба ўзяць на ўлік кожную крынічаньку, кожнае балотца, кожны ручаёк, берагчы і ахоўваць іх, каб Цітаўка была паўнаводнай і чыстай». Будзем спадзявацца, што заклапочанасць гэтую заўважаць многія чытачы. Таксама – тыя жыхары, насельнікі Мар'інай Горкі, Пухавіцкага раёна, хто і па пасадзе сваёй нейкім чынам мог бы паўплываць на сітуацыю.

Так, рэкі Пухавіччыны – не раўня Дняпру і Нёману. Але і Талька, і Пціч, і Свіслач не меней цікавыя і дарагія паэтам, мастакам. «На берагах Цітаўкі праводзілі свой вольны час розныя знакамітыя людзі Пухавіччыны: празаік Анатоль Вольны, паэт Алесь Цвях, пісьменнік Макар Паслядовіч і многія іншыя», – пазначае Алена Пуціцкая. І далей чытаем: «У свой час любіў наведвацца на бераг Цітаўкі народны пісьменнік Беларусі Якуб Колас, калі прыязджаў у наш раён». У паказальніку – цытаты з паэтычных твораў Генадзя Кляўко, Якуба Коласа, Соф'і Меляшкевіч.

Паказальнік, зроблены А. Пуціцкай, у асноўным скіраваны на прыцягненне ўвагі да малых рэк Пухавіччыны, Беларусі ўвогуле. А гэта ж менавіта яны болей за астатнія пацярпелі ў часы «меліярацыйнага росквіту».

«Блакітная кніга Пухавіччыны» – праект, работу над якім, безумоўна, варта працягнуць. Вельмі добра было б пераўтварыць паказальнік у сур'ёзную кнігу. На мой погляд, гэта толькі паспрыяе экалагічнаму выхаванню ў школах Пухавіччыны.


*Зімовая рака Блонь, вёска Дукора*

*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ*

# Браты М. і Г. Гарэцкія

***Так пазначылі сваё аўтарства Максім і Гаўрыла Гарэцкія на вокладцы «Руска-беларускага слоўніка», які быў выдадзены ў 1918 годзе ў Смаленску «к патрэбе і на добрае ўжываньне маладым адраджоным братом, што па-маскоўску чытаць-пісаць умеюць, а па-беларуску навучыцца хочуць».***

Калі яшчэ быў жывы адзін з аўтараў (акадэмік Гаўрыла Гарэцкі), я пацікавіўся, як гэты слоўнічак рыхтаваўся, хто што з братоў рабіў.

Пачуў:

– Я дапамагаў брату. У абласным камітэце ў Смаленску, дзе я працаваў, была машынка, і я друкаваў, глядзеў карэктуру, мо і якое слова падказаў, а, галоўнае, за мною была тэхнічная праца. Слоўнік друкавалі ў той жа друкарні, дзе выдавалася газета. З надрукаваннем не было цяжкасці. Тады была такая часіна: друкуй, калі ласка, што хочаш... Толькі грошы давай! А іх якраз у нас і не было. Пра гэта Максім і Жылуновіч (Цішка Гартны. – *Рэд.*) не раз пісалі.

– Ну, і дзе ж тыя грошы расстараліся?

– А зусім выпадкова. У Смаленску Максім напаткаў свайго таварыша Старобінца. Раней разам у артылерыі служылі. Быў дэмабілізаваны. Максім распавёў Старобінцу пра свой клопат. І гэты Старобінец дастае 800 рублёў – добра помню, колькі грошай было – і дае Максіму.

От гэтак і вырашыўся лёс слоўніка. Больш таго Старобінца я не спаткаў. Хто ён і адкуль – не ведаю...

Вось такая сціплая згадка пра гісторыю выдання «Руска-беларускага слоўніка» ў Смаленску ў 1918 годзе братамі Гарэцкімі. На гэтым можна было б паставіць кропку. Але глядзіце – невядомы цяпер нам артылерыст Старобінец за адно імгненне вырашыў лёс слоўніка. За гэтае імгненне і сваё імя ўвекавечыў, след на зямлі пра сябе пакінуў.

Мы не ведаем, колькі пражыў ахвярадаўца, чым ён займаўся, але з усяго жыцця толькі гэтае яго імгненне і застанецца ў гісторыі... Ці не павучальнае яно для нашых сённяшніх мецэнатаў, бізнесменаў, мільянераў? Ці не прыклад для іх?!




І яшчэ: Максім Гарэцкі, далучаючы да працы над слоўнікам малодшага брата, рыхтаваў яго да свядомага жыцця на нацыянальнай ніве. І яму гэта, як вядома, удалося. Будучы акадэмікам, слынным геолагам, доктарам геолага-мінералагічных навук, Гаўрыла Іванавіч праз усё жыццё цікавіўся і філалогіяй, і моваю, і нетрамі зямлі.

Такія былі браты Максім і Гаўрыла Гарэцкія – укладальнікі «Руска-беларускага слоўніка», выдадзенага ў 1918 годзе ў блізкім нам Смаленску.

*Уладзімір СОДАЛЬ*

**З прадмовы да I выданьня.**

Прыраджоная пашана і любоў да роднае мовы, з якой, як тых выдатных у славеснасьці кніжнай старадаўных беларусаў, так і цяпер нас, невялічкіх, „бог на сьвет пусьціў", вымагала, каб кожнае славечка хатняе ўсмакавалі дый уцямілі як мае быць і выпісалі-бы на паперы дабрачынна.

Але завірушнае жыцьцё, агульнае, сусьветнае разбурэньне нашага часу, насунуўшы быццам злая, пяруністая хмара, нішчыць патрэбы духа і гняцець дбаньнем аб кавалак хлеба; а праз недахват часу і брак грошы — не даець магчымасьці выкладаць і друкаваць кніжкі.

Зьнібеець сэрца за розныя падзеі і да працы гукаець, бо ўсякая наша бава і маруда надаюць сораму ад іншых народаў і нясуць кару — сканаьне мовы бацькаўскае, ці, казаў той, душы беларускае; хаця-ж уціскі нязьлічоныя мы вытрывалі, і ўжо здавалася, што й сонца ў ваконца блiснула.

## З прадмовы да I выданьня
**(на мове арыгінала)**

*Прыраджоная пашана і любоў да роднае мовы, з якой, як тых выдатных у славеснасьці кніжнай старадаўных беларусаў, так і цяпер нас, невялічкіх, «бог на сьвет пусьціў», вымагала, каб кожнае славечка хатняе ўсмакавалі дый уцямілі як мае быць і выпісалі-бы на паперы дабрачынна.*

*Але завірушнае жыцьцё, агульнае, сусьветнае разбурэньне нашага часу, насунуўшы быццам злая, пяруністая хмара, нішчыць патрэбы духа і гняцець дбаньнем аб кавалак хлеба; а праз недахват часу і брак грошы – не даець магчымасьці выкладаць і друкаваць кніжкі.*

*Зьнібеець сэрца за розныя падзеі і да працы гукаець, бо ўсякая наша бава і маруда надаюць сораму ад іншых народаў і нясуць кару – скананьне мовы бацькаўскае, ці, казаў той, душы беларускае; хаця ж уціскі нязьлічоныя мы вытрывалі, і ўжо здавалася, што й сонца ў ваконца блісьнула.*

*Дзеля таго і мы па свайму простаму разуменню, ня маючы адукацыі філёлягічнай... адно – слухаючы свайго вуха – выклалі жменю найцікавейшых слоў к патрэбе і на добрае ўжываньне маладым адраджоным братом, што па-маскоўску чытаць-пісаць умеюць, а па-беларуску навучыцца хочуць.*

***М. і Г. Г.***

# Повязь з Мыцішчамі

**_З паездкі ў Маскву і Маскоўскую вобласць прывёз ёмісты фаліянт «Наша мінулае: далёкае і блізкае». Грунтоўная краязнаўчая манаграфія Юрыя Князева выдадзена ў Мыцішчах – раённым цэнтры Маскоўскай вобласці. Сучасны Мыцішчанскі раён – буйны навуковы, культурны, прамысловы цэнтр Маскоўскай вобласці. Наклад кнігі – 2 000 асобнікаў. Выданне багата ілюстравана. Дадзенай кнізе папярэднічаў шэраг работ уважлівага да мінуўшчыны Мыцішчаў даследчыка. Юрый Князеў займаецца краязнаўствам з 1958 года. За такую падзвіжніцкую працу ўшанаваны званнем «Ганаровы грамадзянін Мыцішчанскага раёна»._**

Уважліва прачытаўшы новую кнігу Ю. Князева, знайшоў нямала кропак судакранання Мыцішчаў, яе жыхароў з Беларуссю. Расказваючы пра падзеі канца XIX стагоддзя, аўтар закранае тэму маскоўскага «Рабочага саюза». Сярод іншых удзельнікаў групы нехта «С.Н. Мицкевич». Тлумачэнняў, на жаль, ніякіх. А вось праз некалькі старонак успамін мыцішчанца пра Першую сусветную вайну. У прыватнасці, К. Алешын расказвае: «У першыя ж дні вайны мы былі прызваны з Шаліным у войска і патрапілі на службу ў шпіталь. Наш 210-ы запасны шпіталь размясціўся ў Мінску. Тут пры дапамозе яўрэйскай вучнёўскай моладзі нам удалося звязацца з партыйнымі таварышамі. Гэта зрабіў Шалін праз беларускае выдавецтва "Саха і лучына". Шалін пазнаёміўся са студэнтам Маскоўскага універсітэта тав. Рыгорам Камінскім, які забяспечваў яго літаратурай, і мы пачалі весці прапаганду сярод параненых, што было, канечне ж, вельмі рызыкоўна...»

Размова, відаць, пра «Саху» і «Лучынку». Чытаем успаміны далей: «Пазней мы атрымалі матэрыялы Цымервальскай канферэнцыі... Хутка сувязь з Камінскім была страчана. У асноўным уся інтэлігенцыя была ахоплена шавінізмам і нацыяналізмам. Але нам паступова ўдалося сагітаваць увесь персанал шпіталя. Я двойчы адпраўляўся ў тыл, але не знаходзіў сувязяў з партыйнымі арганізацыямі. Пазней з Мінска мы выехалі ў Навазыбкаў...»

Яшчэ адзін кавалачак мыцішчанскай гісторыі – распровед пра братоў Баярынавых. У 1935 годзе рабочы Мыцішчанскага вагонабудаўнічага завода Мікалай Баярынаў быў адзначаны званнем Героя Працы. А родам Баярынавы – з беларускай вёскі Табалаўка. У Беларусі сустрэў Вялікую Айчынную вайну мыцішчанец Мікалай Аляксандравіч Разін. Ён прымаў удзел у абароне Брэсцкай крэпасці. Патрапіў у палон. Пасля змагаўся з ворагам у складзе партызанскага атрада Антона Владычука.

Абараняў Брэсцкую крэпасць і яшчэ адзін жыхар падмаскоўнага горада – Аляксандр Барысавіч Юравіцкі. Вызваляў Оршу, Барысаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Глеб Малдаванаў, выпускнік СШ № 11 горада Мыцішчы. Ваяваў каля Барысава і яшчэ адзін вучань гэтай жа школы – Мікалай Гусеў. За ратную працу адзначаны ордэнамі Славы 2-й і 3-й ступеняў, ордэнам Чырвонай Зоркі, двума медалямі «За адвагу». А Глеб Малдаванаў загінуў недзе паблізу Мінска. Захаваліся яго лісты родным. Вось што ён пісаў маці 17 студзеня 1944 года: «Добры дзень, мама! Я пакуль жывы-здаровы. На свята паслаў вам 200 рублёў. Дасылаю грошы ўжо трэці раз, ці атрымалі іх? На днях трое сутак фашысцкія гады палілі Віцебск і прыгарадныя вёскі. Але нічога, прыйдзе час, і мы адпомсцім. Прывітанне Крошцы, Жэньцы і Ніне. Твой Глеб».

Кніга Ю.А. Князева – таксама ўнёсак у памяць пра нашу мінуўшчыну. Няхай сабе – і асобнымі «беларускімі фрагментамі».

***Кастусь ЛАДУЦЬКА***

---

***Слуцкі праваслаўны прыход святога Архангела Міхаіла сёлета адзначыць некалькі круглых дат, звязаных з гісторыяй храма. З іх адна – 615 гадоў з часу першага ўпамінання слуцкай Міхайлаўскай царквы ў гістарычных дакументах. Другая – 210 гадоў як цяперашні храм быў асвечаны ў гонар Архангела Міхаіла і стаў служыць царквой аднайменнага прыхода. Гэты гістарычны будынак знаходзіцца пад аховай дзяржавы, у цяперашніх даведніках прадстаўляецца як помнік драўлянага дойлідства XVIII–XIX стагоддзяў з рысамі барока і класіцызму.***

# З гісторыі слуцкага храма на Востраве

У Слуцку XVII–XVIII стагоддзяў існавалі абшчыны праваслаўных, каталіцкіх і пратэстанцкіх вернікаў, якія ўзводзілі свае храмы. Праваслаўных па колькасці было больш: акрамя трох манастыроў, у розныя часы можна было налічыць ад дзесяці да пятнаццаці прыходскіх і прыпісаных да іх цэркваў. Храмаў тых даўно няма. Засталася толькі невялікая Міхайлаўская царква ў прадмесці Востраў. У яе гісторыі злучыліся лёсы двух старажытных слуцкіх цэркваў – святога Міхаіла Архангела і святых цара Канстанціна і царыцы Алены.

У Слуцку да 2-й паловы XVI стагоддзя адзіным абарончым умацаваннем быў замак, дзе падчас варожай небяспекі знаходзілі схову жыхары размешчанага побач гандлёва-рамеснага пасада. Жыхары прадмесця Востраў з-за аддаленасці замкавых умацаванняў такой магчымасцю карыстацца маглі не заўсёды. Жылі тут людзі, гатовыя кожную хвіліну даць адпор нечаканаму ворагу. Спадзявацца прыходзілася на ўласную сілу і на дапамогу святога прадвадзіцеля нябеснага воінства Архангела Міхаіла, у гонар якога была асвечана прыходская востраўская царква.

Упершыню Міхайлаўская царква згадваецца ў 1392 годзе. З'явілася ж, несумненна, раней. З жыхарамі прадмесця неаднойчы цярпела ад іншаземцаў. Разам з прадмесцем яе не стала ў сярэдзіне XVII стагоддзя падчас вайны Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай. Пасля вайны была адноўлена і прастаяла да канца XVIII стагоддзя. Які мела выгляд тады, звестак не захавалася, але можна выказаць меркаванне на аснове зробленага ў свой час апісання іканастаса – шасціяруснага, з чатырнаццаццю абразамі. У кожным ярусе, калі падлічыць, змяшчаліся ад аднаго да чатырох абразоў, відавочна, што быў ён вузкі і высокі. Прапорцыі іканастаса адпавядаюць інтэр'еру, значыць, і тагачасная Міхайлаўская царква па памерах была невялікая, а галоўны аб'ём яе развіваўся ўверх і, канечне, складаўся з некалькіх ярусаў. Наша меркаванне не супярэчыць звесткам пра тое, што характэрнай рысай слуцкай школы храмавага дойлідства якраз і была яруснасць пабудовы аб'ёмаў. Даследчык слуцкай мінуўшчыны пачатку XX стагоддзя Андрэй Снітка адзначаў, што нават купалы старых слуцкіх цэркваў былі двух- або трох'яруснымі.

Пасля адбудовы Міхайлаўская царква прастаяла амаль паўтары сотні гадоў. Зробленае ў 1793 годзе апісанне сведчыць, была яна ў той час ужо старой, але бярвенні, з якіх складалася, аказаліся не спарахнелымі, таму для набажэнстваў яе прызналі прыгоднай. Праз чатыры гады, аднак, з-за старасці царкву закрылі. Яе маёмасць і фундушы дасталіся перанесенай незадоўга перад тым з горада на Востраў царкве святых цара Канстанціна і царыцы Алены.

Калі была заснавана ў Слуцку Цара-Канстанцінаўская царква, звестак таксама не захавалася. Адзначым, што такая назва для беларускіх цэркваў з'яўлялася даволі рэдкай, калі не унікальнай. Як вядома, пашана імператара Канстанціна і яго маці царыцы Алены была пашырана ў Візантыі. На нашых землях іх шанаванне прыпадае пераважна на ранні перыяд гісторыі ўсходнеславянскага хрысціянства і адлюстроўвае сувязі з Візантыяй, яе ўплыў на мясцовае царкоўнае жыццё. Але ў Слуцку старадаўніх візантыйскіх святых і ў часы значна пазнейшыя, як бачым, не толькі помнілі, але і мелі прысвечаны ім храм. Як аказваецца, на гэта была свая прычына.

Праваслаўныя цэрквы Вялікага княства Літоўскага ўваходзілі ў склад Канстанцінопальскага патрыярхату. У 1596 годзе ў Брэсце была аб'яўлена унія – саюз праваслаўнай і каталіцкай царквы пад вяршэнствам Рыма. Але манастыры і цэрквы Случчыны ў складзе трыццаці прыходаў яе не падтрымалі. З 1596 года, калі ў сувязі з прыняццем уніі праваслаўнай Кіеўскай мітраполіі не стала, і да 1620 года, калі яна была адноўлена, кіраўніцтва слуцкіх цэркваў непасрэдна трымала сувязь з Канстанцінопалем. У 1600 годзе ў Слуцку праваслаўным брацтвам пры Праабражэнскай царкве быў заснаваны манастыр, які з 1620 года перайшоў у падпарадкаванне Канстанцінопальскаму патрыярху – стаў стаўрапігіяльным. Аб падтрымцы такіх сувязей клапаціліся і ўладары краю XVI–XVII стагоддзяў – князі Алелькавічы, а потым Радзівілы. З 1678 года ў слуцкім Троіцкім манастыры пэўны час жыў грэчаскі мітрапаліт Макарый Лігарыд. Магчыма, што ў Слуцку пражывалі і іншыя выхадцы з земляў былой Візантыі, на той час ужо заваяванай туркамі.

Як бачым, у XVII стагоддзі існавалі даволі актыўныя сувязі праваслаўнай Случчыны з Канстанцінопалем. Безумоўна, гэта стала адной з прычын з'яўлення тут царквы, якую асвяцілі ў гонар святых цара (імператара) Канстанціна, імя якога насіла сталіца Візантыі, і яго маці царыцы Алены. Наўрад ці будзе памылкай лічыць, што ў часы, калі пры афіцыйнай падтрымцы дзяржаўных улад Рэчы Паспалітай у краіне набіралі моц і пашыраліся каталіцызм і уніяцтва, з'яўленне ў Слуцку праваслаўнай царквы з такой назвай дэманстравала як вернасць праваслаўных вернікаў сваім старадаўнім традыцыям, а таксама незалежнасць і самастойнасць палітыкі ў справах веравызнання, якой кіраваліся тагачасныя ўладары Случчыны.



Часам заснавання Цара-Канстанцінаўскай царквы, зыходзячы з вышэйсказанага, можна лічыць XVII стагоддзе. Верагодна, што, прастаяўшы каля сотні гадоў, першы храмавы будынак быў заменены на новы. Як лічыць архітэктар Аляксей Яроменка, які займаўся гісторыяй слуцкіх праваслаўных цэркваў, адбыцца гэта магло 270 гадоў таму. Узведзены ў XVIII стагоддзі храм па архітэктуры быў двухзрубны, ярусна-восевай кампазіцыі. Галоўны аб'ём і алтарную частку завяршалі двух'ярусныя купалы. Па перыметры будынак абкружала адкрытая ўнутр галерэя. Стаяла царква на вуліцы Капыльскай, прыкладна там, дзе цяпер знаходзіцца гарадская бібліятэка.

Як сведчаць дакументы, на працягу многіх стагоддзяў у Слуцку ўзводзіліся драўляныя цэрквы самых розных тыпаў. Пашыранымі былі і двухзрубныя, па архітэктуры падобныя да Цара-Канстанцінаўскай. Такой была, напрыклад, узведзеная ў XVIII стагоддзі гарадская царква Нараджэння Хрыстовага – аднакупальная, з галерэяй вакол галоўнага аб'ёму і двух'яруснай алтарнай часткай. Архітэктура драўлянай Юр'еўскай царквы, што да 2-й паловы XIX стагоддзя стаяла ў мястэчку Раманава Слуцкага павета (як сведчыць малюнак мастака Дзмітрыя Струкава, зроблены ў 1860-я гады), увогуле можа разглядацца як спрошчаны варыянт слуцкай Цара-Канстанцінаўскай: яе галоўны аб'ём, па перыметры абкружаны галерэяй, і алтарная частка завяршаліся купаламі.

Насельніцтва Слуцка на працягу XVIII стагоддзя па розных прычынах скарачалася. У цэрквах з-за гэтага змяншалася колькасць прыхаджан. Таму напрыканцы XVIII і ў 1-й палове XIX стагоддзя некаторыя цэрквы з малымі прыходамі пазбаўляліся самастойнасці, іх з прыходамі прыпісвалі да буйнейшых. Верагодна, што Цара-Канстанцінаўская сярод іх аказалася ў ліку першых. Яе прыход, хутчэй за ўсё, далучылі да блізкай Мікалаеўскай царквы, а саму перанеслі ў прадмесце Востраў.

На новым месцы Цара-Канстанцінаўскай царкве дасталіся фундушы і маёмасць закрытай ў 1797 годзе старой Міхайлаўскай царквы. Потым пераасвяцілі і яна атрымала традыцыйнае для востраўскага прыходскага храма імя Міхаіла-Архангела. З гэтага часу царквы пад імем святых цара Канстанціна і цырыцы Алены ў Слуцку не стала. У віхуры гістарычных падзей, якімі былі багатыя XIX і XX стагоддзі, згубіліся многія старажытныя абразы, у тым ліку і прысвечаныя гэтым святым. Аднак, як сведчыць жыццё, можна разлічваць і на нечаканыя знаходкі. Напрыклад, аўтару гэтых радкоў нядаўна быў паказаны знойдзены на Случчыне старадаўні медналіты абразок з выявай цара Канстанціна і царыцы Алены. Ёсць усе падставы лічыць яго зробленым у Слуцку, бо асаблівасці яго выканання сведчаць, што гэта хутчэй за ўсё твор XVII стагоддзя.

У 1878 годзе будынак Міхайлаўскай (былой Цара-Канстанцінаўскай) царквы набыў той выгляд, які захаваўся да нашага часу. Замест старой званіцы, што стаяла ў куце царкоўнага пляца, была ўзведзена новая, якую прыбудавалі да галоўнага фасада храма.

***Лёс ашчадна абышоўся з Міхайлаўскай царквай, і яна захавалася. З пачатку 1990-х гадоў стала саборным гарадскім храмам. Царкоўны пляц пасля з'яўлення мураваных капліцы-іконнай лаўкі, асвечанай у гонар іконы Маці Божай Уладзімірскай, корпуса духоўна-асветніцкага і адміністрацыйнага цэнтра (архітэктар абодвух А. Яроменка) і іншых пабудоў ператварыўся ў архітэктурны ансамбль. Настаяцелем храма з 1989 года з'яўляецца айцец Міхаіл Вейга, ён жа Благачынны Слуцкай царкоўнай акругі, а таксама галоўны рэдактар духоўна-асветніцкай газеты «Преображение», што выдаецца храмам.***

***Ігар ЦІТКОЎСКІ,***
***г. Слуцк***



# 2007: Год Слова Купалы і Коласа



(Працяг. Пачатак у №№ 3–17)

Мы присутствуем при историческом событии, чрезвычайной для края важности. Белорусская песня из области этнографии переходит в область литературы; белорусский народ из объекта фольклористического изучения становится субъектом национального самосознания. И «Жалейка» Янука Купалы – одно из несомненных доказательств этого крупного факта...

...И мы всей душой присоединяемся к благородному желанию поэта. Пусть он будет для белоруса тем, чем был Шевченко для Украины! Пожелаем ему творящих сил для новых песен и посодействуем самому широкому распространению этого первого выпуска творений настоящего белорусского поэта – «божьей милостью». Придут лучшие времена, – и за подвиг его родной народ заплатит ему своей лучшей благодарностью – бессмертием![2]

*(Паводле газеты «Минский курьер», 1908, № 113)*

## Выпрабаванне славай

Яно для Я. Купалы ішло належна. Ён, каго ўжо называлі песняром, добра адчуваў і сваю годнасць, і сваю вялікую адказнасць перад беларускім народам. І, пераадольваючы як груба-зласлівыя нападкі, так і прыемную кожнаму жывому чалавеку пахвалу, настойліва працуе. З месяца ў месяц ён змяшчае ў «Нашай Ніве» новыя вершы (друкуецца не ўсё па тых ж пільных цэнзарскіх меркаваннях), а 21 верасня прапісваецца ў 2-м паліцэйскім участку Вільні (Віленская вуліца, 20, кв.12), каб па просьбе «Нашай Нівы» быць бліжэй да рэдакцыі і яе беларускіх спраў, а дзеля пражытку паступіў на працу ў прыватную бібліятэку Б. Даніловіча «Знание». У кастрычніку ў палітыка-эканамічнай і літаратурнай газеце «Рада» (Кіеў) з'яўляецца артыкул Д. Дарашэнкі «Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне», дзе паэзія Я. Купалы за 1908 год (асобныя вершы і першая кніга) ацэнена высока. У № 249 за 31 кастрычніка ў тым выданні быў апублікаваны Купалаў верш-гімн «А хто там ідзе?», які не проста ўразіў, а ўзрушыў усю славянскую Еўропу. Уёй ёсць і хочуць людзьмі звацца беларусы!!! Не «племя» і не «ветвь» з дыялектнай асновай, а старажытны народ, чые продкі засведчыліся ў летапісах з IX стагоддзя!

Восенню 1908-га для Я. Купалы адбудзецца яшчэ адна вельмі лёсаносная рэч: як успамінаў паэт Стары Улас (сапр. Сівы-Сівіцкі Уладзіслаў, 1865–1939), тады ў «Нашай Ніве» Я. Купала пазнаёміўся з Уладзіславай Станкевіч, якая пазней стане ягонай жонкай.

Спрэчкі, прызнанне «Жалейкі» то звычайным, то злачынным выданнем працягваюцца: 11 лістапада Віленскі часовы камітэт па справах друку паведаміў, што сярод іншых непажаданых уладзе выданняў забараняецца распаўсюджванне і «Жалейкі», а 11 снежня газета «Минское эхо» паведаміла, што ўсё ж арышт са зборніка зняты.

***Навукова-краязнаўчая канферэнцыя «Слядамі Купалы», прысвечаная 125-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі, адбылася 27 красавіка ў Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя М. Багдановіча з удзелам кіраўнікоў бібліятэк, грамадскасці. Былі заслуханы даклады вядомых беларускіх пісьменнікаў, журналістаў, краязнаўцаў пра жыццёвы шлях песняра, пра людзей, лёс якіх быў звязаны з Янкам Купалам, з яго творчасцю. Прапануем увазе чытачоў некаторыя з іх.***

## Справа прарока – праўдзівае слова

Бог суддзя тым літаратуразнаўцам, якія ў свой час расхвальвалі ляўкоўскі цыкл Янкі Купалы, а цяпер, у XXI стагоддзі, халоднакроўна заўважылі, што пясняр быў зломлены ў трыццатыя гады...

Трагічны лёс Янкі Купалы, непараўнанага змагара за нацыянальнае адраджэнне і незалежнасць, і яго абуджальная літаратурная спадчына не павінны выклікаць у беларусаў вялыя пачуцці, ардынарныя думкі. Прыемна было прачытаць у артыкуле Ніла Гілевіча «Долю каб бачыў у родным народзе...» пра сардэчны боль за паэта і гнеў да «забойцаў яго таленту...» А ці толькі таленту? – пытанне відавочнае.

Не можа не засмучаць тое, што Купала, жывучы ў адной часавай прасторы з дыктатарам і катам народаў, аказаўся ахвяраю таталітарнай сістэмы. Спробай самагубства ў 1930 годзе драма паэта не вычарпалася, яна перарасла ў трагедыю. Таленавітае расследаванне Барыса Сачанкі «Сняцца сны аб Беларусі» (1988), па сутнасці, не пакідае сумнення, што на загадку смерці Янкі Купалы дадзена даволі пераканаўчая адгадка – замоўленае забойства. Значыць, спроба самагубства, забойства Купалы – звёны аднаго ланцуга. Курс на маральнае і фізічнае знішчэнне паэта як «кіраўніка контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі», узяты ў 1929–1930 гадах, рэалізаваўся праз 12 гадоў – у 1942-м, нягледзячы на ваенныя варункі.

Што ж не мог даравацьсталінскі дэспатычны рэжым нашаму вялікаму творцу? А тое, што і цярам не дараваў Кабзару, – адкрытая заклікў да народа паўстаць, парваць кайданы, здабываць незалежную Бацькаўшчыну. Тут яшчэ існуе пікантны факт: Купала рэзкай крытыкай рэагаваў не раз на крывадушнасць бальшавікоў, іхнія парадкі, а перамогу ў рэвалюцыі называў бальшавіцкім пераваротам...

Смутак з прычыны таго, як трагічна склаўся лёс Янкі Купалы ў савецкі перыяд, не можа зацьміць радасць разумення творчага подзвігу геніяльнага песняра. Ён паспеў сказаць Бацькаўшчыне, занесці ў скрыжалі памяці народнай і гісторыі самыя запаветныя думы. У адным з вершаў ён называе Тараса Шаўчэнку праслаўным бацькам украінскай свабоды. Думаецца, што бацькам беларускай свабоды можна называць Купалу, хоць і папярэднічаў яму палымяны, мужны і самаахвярны Кастусь Каліноўскі. Для песняра вораг той, хто нясе няволю іншаму народу, адкуль бы яна ні пагражала – з усходу ці з захаду. У 1926 годзе, азірнуўшыся на здзейсненае за 22 гады, свяціла першай велічыні ў нацыянальнай літаратуры не спрабуе ўзвесці сабе нейкі пампезны помнік. У вершы «За ўсё...» гаворыцца проста і мудра пра галоўнае:

*Я адплаціў народу,*
*Чым моц мая магла:*
*Зваў з путаў на свабоду,*
*Зваў з цемры да святла.*
***
*Уносіў гэтым долю*
*Свайго для ўсіх дабра,*
*А болей... што ж там болей*
*Жадаць ад песняра?!*

Жадаць забаў? Так, камусьці хацелася, каб паэт забаўляў. Нехта ж і забаўляў, толькі не ён, той, хто ніколі не прыслужваў, а толькі самааддана і самаахвярна служаў:

*Я не для вас, паны, о не,*
*А я для бедных і загнаных,*
*Я з імі мучуся ўраўне,*
*У адных закут з імі кайданах...*

Гэта – радкі з верша «Я не для вас...» (1907). Ды з самага пачатку творчасці, у адным з першых, адным з праграмных твораў «Чаго я б хацеў» (1905) прысутнічае ўжо матыў выбару, матыў сумлення мастака, яго прыналежнасці, ролі:

*Не хачу весяліцца, гуляць,*
*Дзе бяда, слёзы, скаргі ўваккруг,*
*Дзе другія ў няволі сядзяць,*
*Дзе замёрлі і сіла і дух!..*

**Васіль ЖУКОВІЧ**

*(Заканчэнне будзе)*

**Віктар ШНІП**

## Балада Янкі Купалы

Сябе забыць ці быць забытым?
Сябе забіць ці быць забітым?
І ў лесвічны ляцець пралёт,
Як бомба ўніз, што самалёт
На лёс наш кінуў і прапаў?..
Купала падаў і ўставаў,
І заставаўся, як наш свет,
Як той адвечны наш партрэт,
Што мы даўно не беражом,
Не разумеючы, жывём
Мы толькі з ім. І родны дом
Не будзе знішчаны агнём,
Ні часам, ні якой бядой,
І сум размецца вадой,
Што з неба весняга пральецца,
І ўжо ніхто не насмяецца
Над намі і над нашым Краем,
Які ў нас быў, які мы маем
І будзем мець, як меў Купала.
Купала ёсць і нам нямала,
Каб быць, тутэйшае любіць,
Каб падаць, і ўставаць, і жыць,
І заставацца, як наш свет,
Як той адвечны наш партрэт,
Які, нібыта Божы храм,
Што з веку не належыць нам...



Малюнак Б. Шаранговіча да юбілейнага выдання «Новай зямлі»

(Працяг. Пачатак у №№ 3–17)

## Шлях да вяршыні

Што датычыць свайго турэмнага зняволення (тэрмін працягам трох гадоў пачаў адлічвацца з 15 верасня 1908 года), то сам Я. Колас праз некалькі дзесяцігоддзяў успамінаў у размовах са сваім літаратурным сакратаром М. Лужаніным: «Камер за час адсідкі давялося змяніць некалькі. Сядзеў у кутняй, каля вежы, № 1. Потым перакінулі насупраць, здаецца, у пятую. Трапіў на час на Дабрамысленскі завулак. Там трымалі каротка-тэрміновых. А пасля зноў пераехаў назад, у «Пішчалінскі замак». Пішчалін – гэта архітэктар, які будаваў мінскую турму. Апраўдаў сваё прозвішча. Пішчалі людзі там. Дый мне давялося сербануць гора... Пасля давялося мне крыху пабыць і турэмным бібліятэкарам. Гэта было нудна. Літаратура даззвалялася выхаваўча-паліцэйскага кірунку» (далей кніга М. Лужаніна «Колас расказвае пра сябе» будзе пазначацца скарочана).

Я. Коласу і ў зняволенні ўдаецца часамі пісаць вершы і частку з іх розным чынам перапраўляць на волю (турэмнае начальства асабліва сачыла, каб туды не трапілі творы пра заведзеныя ім жорсткія парадкі). Спачуваючы зняволенаму паэту, да яго ўсялякім чынам намагаюцца патрапіць сумленныя людзі (нават пад выглядам блізкай радні альбо нявесты, як гэта, напрыклад, зрабіла настаўніца Е. Карніловіч, былая зняволеная пецярбургскай турмы «Крыжы», па даручэнні маладзечанскіх настаўнікаў, падтрымаць харчам і цёплым словам. Як зазначае М. Лужанін у працы «Колас...», менавіта ў турме ў канцы 1908-га або на пачатку 1909-га паэту прыйшла думка, апрача вершаў, на аснове асабістага жыцця напісаць твор пра цяжкі лёс мастака – будучую паэму «Сымон-музыка». Гэтая задума «... падавала голас аб сабе пачала... бадай што раней за "Новую зямлю". Я зрабіў асобныя запісы, як толькі наладзіў турэмны побыт: раздабыў алоўак і навучыўся хаваць паперы. І ўсё ж не ўпільнаваў: задумаўся над радкамі, у камеру прывялі кагосьці, нагладчык кінуў вокам і схапіў маё пісанне. Нічога не зробіш: пачынаць спачатку мне даводзілася не адзін раз...

Перада мной стаяў уласны лёс. Рупіла расказаць, што вось і мае чалавек нешта за душою, а ніяк не выплыве напаверх у гэтым свеце. Калі замкнулася астрожная брама, я сказаў сам сабе: трымайся, Костусь, ты трапіў у новае кола. І ўсё пераэжытае ўявілася чаргаваннем колаў: час, што звязаны з жыццём у аколіцах Мікалаеўшчыны; юнацтва – навучанне ў семінарыі; потым – настаўніцтва, пераезды з месца на месца ў пошуках заробку і нарэшце – турма. Не раўнуючы, як у "Боскай камедыі", толькі ў мяне налічылася цэлых пяць колаў. Дый пекла стала ў канец, а хлапечая пара здавалася з-за крат сапраўдным раем.

У апошняе кола я прыйшоў з тым жа настроем, які насіў і ў першым: працаваць словам. Я ледзь пачаў выбівацца ў друк, – а тут – за шкірку ды ў каталажку!.. З гэтых разваг і вынікала задума: напісаць твор з пяці частак, адпаведна ліку абведзеных у мыслях наўкруга сябе колаў. Свет жорсткі, ніхто не разумее здольнага хлапца, нават свае людзі. Мае спагаду адно дзед. Адчуўшы ў хлопцу талент, стары перадае яму музычную сілу, як спадчыну ад мінулага. Яшчэ бліжэй музыку дзяўчына, з ёю хлопец хоча ісці ў жыццё, ёй адной іграць і з ёю адной сустрэць будучыню. Але наўкол – сцены, адна вышэйшая за другую: пагарда, паніжэнне, здзек. Хлопец траціць каханую і засынае неабудным сном на магілках, поруч з абранніцай, яна таксама не стрымала цяжару жыцця.

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*





*Добры дзень, шаноўная рэдакцыя «Краязнаўчай газеты». З вялікай павагай звяртаецца ваш пастаянны чытач Дзмітрый Мікалаевіч Дуброўскі, студэнт гістарычнага факультэта БДУ. Нарадзіўся ў Мінску, але ўсё маё дзяцінства прайшло ў вёсцы Мярковічы Бяларуцкага сельсавета Лагойскага раёна. Паралельна са сваёй вучобай і працай я займаюся вывучэннем гісторыі былой Бяларуцкай воласці і свайго радаводу.*

# За Вячай, ля Салаўінай гары

***Летась споўнілася 455 гадоў вёсцы Бяларучы. Упершыню ў пісьмовых крыніцах яна згадваецца ў 1551 г.***

За ракой Вячай, прыблізна за паўкіламетра ад вёскі, узвышаецца высокая круглая гара – Салаўіная. Гэта недаступныя птушыныя ўгоддзі, у тым ліку і салаўіныя. Але акрамя гэтага чуваць таксама звонкі голас ручая, які цурчыць па каменнях і ўзбівае белую пену. Вось за гэтыя белыя пеністыя «ручнікі», што ўвесь час трымаюцца на вадзе ля падножжа Салаўінай гары, ручай і назвалі Белым. Упадае ён у Вячу. Пазней «Белы Ручай»ператвараўся ў Беларучча, а потым у Бяларучы. На картах XVI ст. мястэчка пазначана – «Бяларуч».

У цэнтры вёскі захавалася гарадзішча. Прамавугольная пляцоўка памерам 63х30 м пашкоджана была траншэямі Вялікай Айчыннай вайны. З паўднёвага і паўднёва-заходняга боку да гарадзішча прымыкала селішча плошчай каля 1 га. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі і больш позняга часу. Курганны могільнік на паўднёва-усходняй ускраіне вёскі мае 23 насыпы. На тэрыторыі Бяларуцкай воласці таксама былі знойдзены: у ваколіцах маёнтка Відагошч (цяпер Камсамолец Мінскага р-на), у курганах бронзавыя грыўні, пярсцёнкі, бранзалет, спіралікі, бразготкі, шкляныя пацеркі; на агародах у межах вёсак Малыя і Вялікія Гаяны трапляецца кераміка XIV ст. і больш позняга часу; у вёсцы Мярковічы былі знойдзены манеты і бронзавы звон сярэдзіны XIX ст. з надпісам на ніжняй бакавой частцы «*Колокол БРАТЪЕВЪ № 1 1876 ГОДА*» і з чатырма гербамі «Пагоня» на верхняй частцы звону. Каля вёскі Мачаны, на левым беразе Вячы знаходзіцца гарадзішча, якое мясцовыя жыхары называюць Замчышча. Яно ўяўляе прамавугольную пляцоўку памерам 57х26 м, умацаваную двума валамі і рвамі. У 1567 г. маёнтак Бяларучы згадваецца ў попісе войска ВКЛ у складзе Мінскага павета і ваяводства. У 1582 г. двор Бяларучы належаў Каленіцкай-Тышкевіч, княжне Барбары Васільеўне Саламярэцкай.

23 лістапада 1812 г. рускі палкаводзец фельдмаршал Міхаіл Кутузаў, пакідаючы Косіна, накіраваўся на Радашкавічы. У той дзень ён зрабіў прыпынак у мястэчку Бяларучы. Адсюль паведаміў у Маскву: «*Поспехі Расійскай арміі ў праследаванні праціўніка час ад часу становяцца ўсё больш ашаламляльнымі. Кожны крок наперад ёсць перамога, гібельная для ворагаў Еўропы*».

Адмена прыгоннага права і надзяленне сялян зямлёй была праведзена ў асноўным у інтарэсах памешчыкаў. Усе землі на правым беразе Вячы былі памешчыцкімі. Яны ўразаліся ў сялянскія надзелы. На левым беразе Вячы памешчык Браніслаў Сегін валодаў Камяніцай і Віткоўшчынай. Памешчыцкай была ўся вуліца, якая ішла ад дарогі на ўсход, пашы, луг, у самой вёсцы памешчык таксама меў свае ўчасткі зямлі.

Ў канцы XIX ст. Бяларучы заставаліся невялікім паселішчам. Шынок, млын і некалькі крам, тры дзесяткі хат, невялікі драўляны будынак вучылішча, які стаяў каля рэчкі, блізка ля дарогі, – вось і ўсё мястэчка, але затое са сваёй мясцовай уладай – валасным старроствам, пісарам, ураднікам і папом. У вёсцы было дзве царквы: Свята-Багародзіцкая і драўляная Свята-Успенская. Адна, што была сярод вёскі, называлася «старой». Другая, «новая», па знешнім выглядзе куды прыгажэйшая за першую, знаходзілася ў канцы вёскі ў напрамку суседняй Вячы. Царква стаяла на высокім пагорку, што размясціўся ля дарогі, і зайсці ў храм, асабліва зімой, або занесці на адпяванне нябожчыка, было няпроста.

**Архіўныя дакументы сведчаць:** *«Успенская церковь Божьей Матери 5-го класса, деревянная, штатского годичного жалования причту 234 р. К ней принадлежали церкви: Приписная Гаянская (Рождество-Богородичская) церковь; прикладбищенские: Моцковская (Свято-Троицкая) церковь, Мочанская (Предтеченская) и Жуковская (Свято-Петро-Павловская) церкви».*

Час будаўніцтва храма не высветлены. Вядома, што ў царкоўным архіве захоўваліся метрычныя кнігі. У 1800 г. адзначана як уніяцкая пры маёнтку мінскага крайчага Фамы Аборскага. Невялікі вясковы храм быў зроблены ў форме падоўжанага крыжа. Гонтавыя дахі над зрубамі завяршаліся двума глухімі купаламі, у франтоннай частцы ўзвышалася шатровая званіца. Унутры апсіды вылучаўся двухярусны іканастас на сем абразоў, які меў блакітную афарбоўку, а па ёй – дэкаратыўную пазалочаную накладную разьбу. Ад вясковай забудовы храм адасабляўся простай агароджай з бярвення.

У 1816 г. маёнтак Бяларучы належаў мінскаму крайчаму памешчыку Фаме Францовічу-Аборскаму. Ён меў 29 сялян і 5 дваровых. Святаром з 1830 г. у царкве Успення Найсвятой Багародзіцы быў Есен (Іван) Паўлавіч Бараноўскі, які скончыў Мінскую духоўную семінарыю. Пры маёнтку ў 1880 г. існавала драўляная Свята-Багародзіцкая царква.



**Царква Успення Найсв. Багародзіцы**

*(Фота Яна Балзункевіча, пач. XX ст.)*

На 1880 г. гэты будынак быў даволі моцны, толькі патрабаваў рамонту даху. Храм у гэтым годзе наведвалі 862 жанчыны і 895 мужчын з наваколля. На вялікі жаль, ён не захаваўся. На тым месцы цяпер стаіць Успенская царква Божай Маці з чырвонай цэглы, адбудаваная ў 2004 г. Паводле перапісу 1861 г. у мястэчку было 15 двароў, 139 жыхароў, з 1870 г. – цэнтр Бяларуцкай воласці (50 рэвізскіх душ мужчынскага полу належалі памешчыцы Лапушынскай).

Ў 1870 г. было адкрыта народнае вучылішча. Школа знаходзілася ля падножжа вялікага ўзгорку, на якім раслі сосны. Ад вуліцы школа была агароджана частаколам. У школе было ўсяго чатыры пакоі і тры пакоі-кватэры для настаўнікаў. Характэрна, што спачатку вучыліся толькі хлопчыкі. Галоўным прадметам у школе быў Закон Божы, а потым – арыфметыка, чытанне, чыстапісанне, спевы. Вучыліся толькі на рускай мове. Падручнікаў і іншых вучэбных дапаможнікаў не хапала, ды і купіць не было за што. Пісалі на грыфельных дошках. За памылкі пры пісьме настаўнік караў вінаватых «лапай»: колькі памылак, столькі і ўдараў па далоні.

Напрыканцы XIX ст. тут вучылася 39 хлопчыкаў. У 1907 г. народнае вучылішча пераўтваралася ў аднакласнае, у 1909 г. – у двухкласнае, а ў 1917 – у сямігадовую школу, якую наведвалі дзеці з навакольных вёсак. У 1924 г. у ёй навучалася 568 вучняў. У другой палове 1930-х Бяларуцкая няпоўная сярэдняя школа была davedzena да ўзроўню дзесяцігадовай школы.

Жыхары Бяларуч займаліся земляробствам. Нязначная іх частка, выключна яўрэі, – гандлем і кустарнымі промысламі. З культурных устаноў таго часу выдзяляліся два будынкі. Першы, з левага боку ад дарогі, – Бяларуцкая валасная ўправа, другі крыху далей, ужо з правага боку вуліцы, супраць яўрэйскіх дамкоў, што ў сасонніку, – Бяларуцкая школа. У канцы 1920-х вуліцу ў Бяларучах выклалі брукам, што клалі спецыялісты, якіх наймалі самі жыхары вёскі. Дарога на Мінск ішла праз Вячу, Маркаўшчыну, Відагошч.

На пачатку XX ст. на месцы, дзе сёння беларуцкі магазін, стаяў помнік расійскаму імператару Аляксандру II. Помнік быў адкрыты ў 1911 г. На ўрачыстасцях прысутнічаў губернатар, граў аркестр, а сялянам выдалі па чарцы гарэлкі. Але пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. мясцовы каваль падняўся па лесвіцы і малатком разбіў галаву «вызваліцелю». Пастамент ад помніка стаяў аж да пачатку 1980-х гг., потым пачалі будаваць магазін, пастамент знеслі і застаўся помнік толькі ва ўспамінах мясцовых жыхароў.

Ў 1919 г. палякі наблізіліся да Бяларуч. Быў бой. Як успамін аб тых падзеях, у вёсцы Вяча стаіць помнік загінулым чырвонаармейцам. З 20 жніўня 1924 г. Бяларучы – цэнтр сельсавета Астрашыцка-Гарадоцкага раёна Мінскай акругі. У 1930 г. створаны калгас «Іскра», працавала кузня, вадзяны млын, які яшчэ ў 1890 г. належаў Мікалаю Прохаравічу Мацкевічу.

У 1941 г. у Бяларучах было 69 двароў, 353 жыхары. Тут дзейнічала падпольная арганізацыя, якую ўзначальваў І.І. Сляшынскі. З дапамогай партызанскай сувязной Надзеі Харчанка партызанам удалося знішчыць мясцовы паліцэйскі ўчастак. У ліпені 1942 г. гітлераўцы спалілі вёску (69 двароў), загубілі 13 жыхароў, 24 жыхары вывезлі ў Нямеччыну, 19 вяскоўцаў загінула на фронце, 4 – у партызанскай барацьбе. У наваколлі дзейнічалі партызанскія атрады «Дзіма», «Дзядзя Коля», «За Бацькаўшчыну» брыгады «Штурмавая», Астрашыцка-Гарадоцкае патрыятычнае падполле і інш. У баях за вызваленне вёскі загінулі 2 савецкія воіны.

На 1 снежня 2003 г. у вёсцы Бяларучы налічвалася 39 двароў, 78 жыхароў. Сёння вёска Бяларучы – цэнтр сельсавета, у які ўваходзяць 18 навакольных вёсак, у саміх Бяларучах размешчана бібліятэка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, царква, аддзяленне сувязі, магазін, дзіцячы летнік «Зорка».

Вось такая вёска Бяларучы. Якая цікавая яе гісторыя, колькі таямніц яна яшчэ захоўвае, колькі яшчэ не высветлена. Калі хто хоць раз пабывае на Лагойшчыне, яму абавязкова захочацца завітаць туды зноў. Там адпачываеш душою. Слухаеш птушыныя спевы, ветрык калыша верхаліны дрэў, і табе нібыта здаецца, што дрэвы вітаюць цябе і запрашаюць у госці.

*Хочацца выказаць вялікую падзяку тым людзям, якія захавалі ў сваіх сэрцах любоў да роднага краю, не забываюць радзіму, перадаюць наступным пакаленням талент і любоў.*

*Хочацца звярнуцца і да тых людзей, якія з цягам часу па якіх-небудзь прычынах забылі дарогу да бацькоўскіх мясцін і не наведваюць сваіх родных – ні жывых, ні памерлых. Шмат магіл на Бяларуцкіх могілках стаяць не прыбраныя, некаторыя завалены смеццем і апалым лісцем, некаторыя зусім не пазначаны, невядомыя, без крыжоў і помнікаў. А гэта ж яны, нашы дарагія і блізкія. Дык давайце ж будзем шанаваць і не забываць тых, хто жыў дзеля нас.*

*Асабіста выказваю падзяку тым людзям, якія дапамаглі ў падборцы матэрыялу, а іменна: Віктару Антонавічу Несцяровічу, Генадзю Мікалаевічу Крыўцу, Валерыю Антонавічу Багушэвічу, Зінаідзе Іванаўне Ракусевіч, Мікалаю Васільевічу Дуброўскаму.*

*Дзмітрый ДУБРОЎСКІ,*
*студэнт гістфака БДУ*





***У № 9 за гэты год мы змясцілі вялікі артыкул, прысвечаны Берастаўцы. Сёння ж прапануем вам верш нашай чытачкі Галіны Жывіцы, прысвечаны яе цудоўнаму гораду. Твор, мяркуем, стане добрым дадаткам да той публікацыі, паэтычнай ілюстрацыяй да гістарычных фактаў.***

# У вянку пагранічча мядункай цвіцеш

## Да 500-годдзя Берастаўцы

### Трыпціх

### 1.

*Як зяблікам[1] гнаным, акарчанелым,
Мяне к твайму берагу бурай прыбіла,
Ледзь ціўкала крыўда
у горле скалелым,
Абвіслі бяссільна стамлёныя крылы.
Спагадай сустрэлі, ў далонях сагрэлі
Твае цёці Надзі і бабці Анелі.
Як доўга пакутліва я прывыкала:
То сонца не з тога ўсё боку ўставала,
То мова тутэйшая доўга здзіўляла
(Зайдзі за-за мной, дзісь, дзыгаць,
паля[2]...).
Любімыя кветкі мае палявыя –
І то не такія, як дома, – чужыя...
Ды неяк прывыкла я ўсё ж спакваля,
Гняздзечка звіла, птушанят гадавала.
Як чорная хмара прасцяг закрывала,
Не бачыла з роспачы свету на кола,
Мне цэрквы сівыя твае і касцёлы
Шурпатыя рукі свае падавалі,
Надзейныя плечы сябры падстаўлялі.
І я памірала, ды зноў паўставала,
А ноччу адчайна у неба ўзмывала,
Над полем, лясамі, лугамі кружляла...
...Не верыла снам, насланнё адганяла
І моўчкі душыла ў сабе палілог
Нязбытых радкоў
неўвасобленых строф.
Ты ж песню маю цярпліва спяліла:
Купальскімі зёлкамі раны лячыла,
Нішчымніцай хлеба скарынку давала,
У спёку крынічнай вадой частавала.
І вось ачуняла я сонечным ранкам
І стала пявучай тваёй берасцянкай.
Працівіцца клічу нябёс няма сілы,
Штуршок –
і блакітам падхоплены крылы.
Імкнуся праз хмары
стагоддзяў зляжалых,
Збіраю аскепкі падзеяў былых,
Нанізваю пацеркі тайнаў амшалых
На стужкі гасцінцаў забытых тваіх.*

### 2.

*Тваёй мне траістасці не надзівіцца[3]:
Нібыта раскінуў анёл два крылы,
Князёўна Вялікая Берастаўца
Аберуч малодшых сясцёр абняла.*

*Нястрымна імчалі вякоў каляснiцы,
Жахалі маланкі, віхуры раўлі,
Ды годна стаялі Берастаўцы
На рубяжах беларускай зямлі.*

*Не песціла доля ніводнай сястрыцы,
Але ў трыадзінстве ратунак знайшла
Святая пакутніца Берастаўца
У німбе вясёлак, любові й святла.*

*Каліна, прымерыўшы вэлюм,
глядзіцца
У гладкую завадзь задумнай ракі,
Мядова-малінавыя зараніцы
Някідкіх пейзажаў запаляць мазкі.*

*Вячэрніх аблокаў убор маціцовы[4]
Сплывае ў зефірную квецень садоў,
Напружваюць памяць –
ссоўваюць бровы
Ссівелыя камні маўклівых кладоў[5].*

*Дзе ў жмуркі гуляюць начныя зарніцы,
Лагодна грукоча пярун паміж траў,
Там ідал паганскі пустыя вачніцы
Ад дыму ахвярных агнёў праціраў.*

*На свежых баразнах
былых гарадзішчаў
Усходзяць з вязніц дайніны чарапкі
І грэюць, прыжмурыўшыся ў заціхшы,
Свае патрапаныя часам бакі.*

*Дынарыі знойдзеных скарбаў
даводзяць,
Што тут разміналася срэбра
з бурштынам:
Вядома, шляхі ўсе да Рыма даходзяць,
А ў нас яны толькі ўпіраюцца клінам.*

*Нараджаліся тут ваяводы і ткаллі[6],
Ратаі, асветнікі і мастакі.
Коштам жыцця табе веліч сыскалі
Твае бессярэбранікі-дзівакі.*

*У Еўропе ўздыхнула
з палёгкаю панства,
Як зломан скрываўлены быў ятаган[7].
Надзейна утрымліваў
шчыт хрысціянства
Годны нашчадак Хадкевічаў Ян.*

*Паэт і вучоны Марцін Адляніцкі
Настойліва зорнай дарогай ішоў.
Не змяняў роднай зрэбнае світкі
На мантый заморскіх
спакуслівы шоўк.*

*Граф Леан Патоцкі
праз друз успамінаў
Надзею на прышласць[8]
штомоц бараніў,
Падслухаўшы ціхую скаргу ліцвінаў
У смутку палацаў, курганаў і ніў.*

*Не здрадзіў юнацкім ідэям свабоды
І верыў, што дбанне яго недарма,
Як кнігу у юрты усходніх народаў
Прынёс Кавалеўскі, былы філамат.*

*Тут слова «Мужыцкае праўды»
грымела,
Лятала па свеце, нібы бліскавіца.
Крамольную славу паўстанца
займела
Старога касцёла твайго камяніца.*

*Бо ксёндз мястэчковы
Ігнацы Казлоўскі
З каморнікам Феліксам люд падымалі,
Плячо у плячо з Кастусём Каліноўскім
Айчыне сваёй лепшы лёс здабывалі.*

*...На спалатнелых шчаках жаўлакі,
На лбах – непакора ды здрадлівы пот...
Твае найразумнейшыя дзецюкі
За вольнасць ўзыходзілі на эшафот...*

*Займелі й мы права народам звацца,
Як змог даказаць перад светам усім,
Што беларусы – асобная нацыя,
Прафесар-філолаг Карскі Яўхім.*

*Характар мясцовых мужчын
незалежны:
Мяцежны дух прашчураў
гордых імкне.
Хай ведае подлы нападнік драпежны:
Хто вецер пасее, той буру пажне.*

*Госцю жаданаму – насцеж вароты,
Сэрцы – наросхліст, частунак –
на стол.
Забудзеш адразу гаркоту-сумоту:
Умее прывеціць народ-хлебасол.*

*Шчаслівы тут быў
і Станіслаў Манюшка,
Як сілу твайго прыцягнення адчуў.
Славутую «Гальку»
наш лес яму гушкаў –
Паўсюды музыка гармонію чуў.*

*Малюнкі гляджу кампазітара Орды:
Нібыта па волі чараўніка
Застылі сядзібаў, палацаў акорды –
Тут муза вадзіла рукой мастака.*

*Пейзажы, партрэты бясконца змяняе
Нястомны руплівец – часу вятрак.
Усё на зямлі нейкі след пакідае,
Нішто у нябыт не сыходзіць «за так».*

*А над табою шумелі вятрыскі:
Падзелы, нашэсці, вайна, грабяжы...
На ўсіх раздарожжах крыжы, абеліскі,
І не адзін патрыёт там ляжыць...*

*Сёння ж ізноў Беларусі граніцу
Ад хцівых чужынцаў
дзяржыш на замку.
Сябрам дарагім –
з бурштыннай пшаніцы
Падносіш хлеб-соль
на льняным ручніку.*

*Хто рады дасць вызнаць
тваю таямніцу –
Чым болей гадоў, тым усё маладзей!
Умеліца, жытніца і жартаўніца,
Зычлівай усмешкай вітаеш гасцей.*

*Апранута ў строі святочныя, новыя,
Ты ў вянку пагранічча
мядункай цвіцеш,
Заможнай шляхцянкаю засцянковаю
Да шлюбу з новым стагоддзем ідзеш.*

### 3.

*Ты ўмееш цярпець, шкадаваць і любіць,
Даруеш грахі і дорыш надзею.
Адно не ўмееш – мачыхай быць,
Быць толькі матуляй –
твая прывілея.
Скажы, як аддзячыць табе,
мой прыстанак?
Якія яшчэ памножыць багацці?
На кожны твой захад
і кожны світанак
Якія найноўшыя песні мне скласці?
Прызнайся, што крылы невыпадкова
Дала берасцянцы для заўтра свайго.
Скажы мне, матуля, ласкавае слова
І ўбачыш – я апраўдаю яго.
Мне звоняць набатна
званочкі й званіцы,
Сасмяглай рачулкі чую уздых,
Быліны ўсмоктваю і небыліцы
Зламаных, стаптаных
былінак тваіх.
У скроні на золаку стукае-б'ецца
І кліча-заве праз вякі ў скляпенні
Вялікага гетмана мужнае сэрца –
Чакае твой хорам свайго абнаўлення...
Хачу, каб сады зелянелі і паркі,
Не бляклі блакітныя вочы стаўкоў,
Хачу, каб палацы твае і фальваркі
Свяжэлі ў завулках малых гарадкоў.
Касцёл Найсвятое Дзевы Марыі
Я мару на звонкасць апрабаваць:
Ці адгукнуцца сцены старыя,
Як хор будзе «Ave Maria» спяваць?
Хачу, каб было рамонкава, песенна,
І грыбна, і рыбна, і зорна, і чыста,
Валошкава, ягадна, снежна і весела,
Марозна, і хлебна, і прамяніста.
Хачу, каб заўсёды на гэтай зямлі
Прыгожыя людзі шчасліва жылі!
Твой бераст збалелы шукаю-гукаю,
Нясмела бялюткі карэньчык пускаю
І адчуваю – расту, прырастаю
Да гэтага долу, да гэтага краю...
Калі ж разлютуецца зноў навальніца
І сонца ўкрадзе, і ўсё пойдзе на злом,
Я знаю, матуля-Берастаўца,
Мяне захінеш ты анёльскім крылом.
Ніяк не зайздрошчу ветранай славе,
Мне б толькі паспець
табе болей аддаць...
А гонар... Мне гонар аднойчы ў актаве
З тваім імем прозвішча зарыфмаваць.
Я Светласць тваю
не дазволю запляміць,
Ўзлунаю к Высокасці праз градабой,
Адолею буру, марозную замець
І перад Веліччу ўкленчу тваёй.*

***Галіна ЖЫВІЦА,***
***намеснік дырэктара***
***Масалянскай сярэдняй школы***
***Берастаўцкага раёна***



**Выгляд на сажалку і касцёл Візітацыі Найсвятой Панны Марыі ў Вялікай Берастаўцы**

---

[1]Зяблік – берасцянка.
[2]Паля – паглядзі (дыял.).
[3]Тваёй мне траістасці не надзівіцца – раённы цэнтр называюць Вялікай Берастаўцай, на захад – пасёлак Берастаўца (цяпер Пагранічны, назва Берастаўца засталася за чыгуначнай станцыяй), на ўсход – вёска Малая Берастаўца.
[4]Маціцовы – перламутравы (састар.).
[5]Клады – могілкі.
[6]Ткаллі – ткачыхі.
[7]Ятаган – турэцкая шабля. Тут маецца на ўвазе славутая Хоцінская бітва, калі пад кіраўніцтвам Яна Хадкевіча была атрымана перамога над войскам Турэцкай імперыі.
[8]Прышласць – будучыня.

## Май

**15 – Галубок** (сапр. Голуб) **Уладзіслаў Іосіфавіч** (1882, Баранав. р-н – 1937), тэатральны дзеяч, драматург, рэжысёр, акцёр, мастак, першы народны артыст Беларусі – 125 гадоў з дня нараджэння.

**21 – Ляўко Вольга Мікалаеўна** (1947, Капыл. р-н), вучоны-археолаг – 60 гадоў з дня нараджэння.

**24 – Тычына Анатоль Мікалаевіч** (1897, Ковен. губ. – 1986), графік, адзін з заснавальнікаў беларускай кніжнай графікі – 110 гадоў з дня нараджэння.

**25 – Купрэеў Мікола** (Мікалай Сямёнавіч; 1937, Рагач. р-н – 2004), пісьменнік – 70 гадоў з дня нараджэння.

**27 – Біч Міхаіл Восіпавіч** (1937, Мастоўс. р-н – 1999), вучоны-гісторык – 70 гадоў з дня нараджэння.

**27 – Сабалеўскі Анатоль Вікенцьевіч** (1932, Дзяржын. р-н), тэатразнавец, педагог, лаўрэат Тэатральнай прэміі імя К. Крапівы (2001) – 75 гадоў з дня нараджэння.

**27 – Саюз беларускіх пісьменнікаў, добраахвотная творчая грамадская арганізацыя прафесійных літаратараў Беларусі** (1932) – 75 гадоў з часу ўтварэння.

**28 – Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь** (Мінск, 1927) – 80 гадоў з часу заснавання.

### *Народ сказаў*

Не працуеш – не заробіш, не заробіш – не з'ясі і не зносіш.

*Павесіш цэп, прападзе й хлеб.*

Дасі зямлі, дык і ад зямлі возьмеш.

*Дзе многа васількоў, там мала каласкоў.*

Той розум мае, хто ўлетку сані папраўляе.

*Вясновы дзень праляжыш – зімой цэлы месяц па пазычках бегаць будзеш.*

Раніцай росна, у полудзень млосна, вечарам камары – і рабіць няма калі.

*У цяньку летам добра – холадна, ды зімой дрэнна – голадна.*

Дзе работа, там і густа, а ў лянівым доме пуста.

*Сягоння зрабі – заўтра як знойдзеш.*

Калі здолееш узяцца за справу – і снег загарыцца, калі не здолееш – і масла не ўспыхне.

*Добра папрацуеш – і ў цыбулі смак пачуеш.*

## Гарэла зямля, задыхалася...

*Сёлета Гарынь нядоўга гуляла ў сваёй пойме. Вясновая вада хутка пакінула залўныя лугі. І на месцы вялікіх лужын імкліва пачала зелянець, набірацца сакавітасці і моцы трава. Пасля абудзілася кустоўе – прырода шчодра асыпала яго пупышкамі. А праз некаторы час дзьмухаўцы ўпрыгожылі зялёнае ўладарства жоўтымі плямкамі...*

*Сярод глухіх, амаль заўсёды бязлюдных, але напоўненых небесісэнсоўнай мітуслівасцю, гаманлівым віраваннем жыцця мясціны – раптоўная цішыня. Ні ціўкання птушак, ні гудзення мушак-пчол. Здаецца, і трава тая ж, і кусты. Але так падалося спачатку. Кусты засохлыя, знізу чорныя, абгарэлыя. А трава, хоць і зялёная, ды рэдкая. Дзіву даешся, як толькі яна здолела прабіцца праз чорнае покрыва да сонейка?..*

*І што за неабходнасць выпальваць сухую траву? Няўжо на месцы старой не вырасце новая, сакавітая, зялёная, густая? Няўжо гэты свет быў створаны неабдумана? Хіба ёсць у ім штосьці непатрэбнае, якое варта абавязкова знішчаць? Кожны год штучнае полымя губіць не толькі траву, але ўсё жывое наўкола. Кожны год зямля задыхаецца ад едкага дыму. А потым бядуем – чарговая паводка, чарговы ўраган, чарговы неўраджай...*



**Ігар ГРЭЧКА,**
**фота аўтара**

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ГАВЭНДА** (з польск. гутарка) – невялікі эпічны празаічны ці паэтычны жанр у польскай літаратуры эпохі рамантызму (канец XVIII – 1-я палова XIX стст.) Сфармавалася на аснове бытавога апавядання пераважна ў шляхецкім асяроддзі, а таксама і сярод бывалых і гаваркіх сялян. У гавэндзе апавядальнік звычайна ад першай асобы расказваў пра пэўныя падзеі, удзельнікам альбо сведкам якіх называў і сябе, ці пераказваў пачутае ад іншага. У расказах магла быць і вялікая доля фантазіі, хоць пры гэтым маглі падкрэслівацца негатыўныя ацэнкі адмоўных з'яў і персанажаў. З пісьменнікаў, якія жылі ў Беларусі і пісалі ў асноўным па-польску, гэтым жанрам удала карысталіся А. Міцкевіч і Ул. Сыракомля. Блізкай да гавэнды былі так званыя бываліцы В. Дуніна-Марцінкевіча. У сучаснай беларускай літаратуры на аснове гавэндаў-бываліц выдатны ўзор іх стварыў Я. Брыль у аповесці «Ніжнія Байдуны».

**ГАДЗІЛАВІЧЫ** – курганны могільнік радзімічаў (X–XII стст.) каля вёскі Гадзілавічы Рагачоўскага раёна. Пахавальны абрад – трупапалажэнне галавой на Захад, часамі і на Усход. Адшуканы бронзавыя нажы, крэсівы, рэшткі ганчарнага посуду, упрыгажэнні, у тым ліку 7-прамянёвыя скроневыя кольцы, падвескі, шкляныя пацеркі, медныя пярсцёнкі, бранзалеты.



*Газеты Беларусі пачатку XX ст.*

**ГАЗЕТА** – друкаванае перыядычнае выданне, якое змяшчае разнастайныя матэрыялы на самыя розныя тэмы гісторыі і сучаснасці, эканомікі і культуры, побытавага жыцця, адыгрываючы сваё значэнне для інфармацыі і прапаганды. Маюць розныя аб'ём і перыядычнасць, газетныя жанры (карэспандэнцыі, агляды, артыкулы, нарысы, эсэ, інтэрв'ю, рэцэнзіі, фельетоны, а таксама навукова-папулярныя і мастацкія творы, лісты чытачоў). Як тып выдання газета склалася ў Еўропе ў пачатку XVII ст. На землях сённяшняй Беларусі першай была польскамоўная «Газэта Гродзеньска» (1776–1783), што выходзіла штотыднёва на двух старонках і была прысвечаная тагачасным грамадска-палітычным праблемам, змяшчала інфармацыю пра падзеі ў горадзе, аб'явы (улічваючы, што выданне мела шырокі рэзананс, кароль Польшчы і вялікі князь ВКЛ С. Панятоўскі прыставіў да яго цэнзара, пад націскам якога часамі асобныя матэрыялы скрачаліся ці ўвогуле выкідаліся са старонак). Апошні захаваны нумар газеты за 28 снежня 1780 г.

З 1838-га на Беларусі пачалі выпускацца рускамоўныя губернскія газеты («ведомости»). У 1862–1863-м К. Каліноўскі нелегальна выдаваў першую беларускамоўную газету «Мужыцкая праўда». З канца XIX і на пачатку XX стст. рускамоўных выданняў рэзка пабольшала, асабліва ў Вільні і ў Мінску. Многія з іх у рэвалюцыю 1905–1907 гг. і пасля яе мелі рэакцыйны, чарнасоценны характар і вялі зацятую барацьбу з рэдкімі беларускамоўнымі выданнямі («Наша доля», 1906; «Наша Ніва», 1906–1915) і з нацыянальным рухам увогуле. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. пабольшала і беларускамоўных газет («Грамада», «Вольная Беларусь» і інш.), якія, апроч культурна-асветнай працы, разгарнулі работу і па самаазначэнні Беларусі як дзяржавы. З 1920-х колькасць газет у Беларусі рэзка ўзрасла. На 1 студзеня 1995 г. у Беларусі выходзіла 525 розных газет, пазней лік іх значна пабольшаў. У тым ліку і за кошт недзяржаўных.

З красавіка 2003 г. пры ГА «Беларускі фонд культуры» пачала выходзіць «Краязнаўчая газета», што з'явілася першым у гісторыі беларускага друку газетным выданнем на разнастайную краязнаўчую тэматыку.



*Жаночыя ўпрыгожанні з курганнага могільніка «Гадзілавічы»*

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі:
грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас:
220029, г. Мінск,
вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26,
234 61 62.
E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 17.05.2007.
Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14).
Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.

Заказ 576
Тыраж 1400 асобнікаў.